

магілёўскі

# Выбар

№ 5 Красавік 2012 г.

Абласная Дэмакратычная Трыбуна

# У Чэрыкаўскім раёне хутка знікне лес



… Хто з нас ад дзяцінства не ведае ці тое закліку, ці тое абяцання альбо нейкай ананімнай канстатацыі: "Лес – наша багацце!". А хацелася б ведаць, чыё менавіта гэтае багацце – бо зразумела, што гаворка тут не ідзе аб звычайных простых людзях. Наадварот, як знаем, па некалькі разоў на год звычайным людзям забараняецца то паляваць у лясах, то збіраць там грыбы-ягады, то ставіць слоікі на бярозавік, а то і па-просту наведвацца ў лес – пагуляць па ім, пасядзець ля вечаровага вогнішча. Месцаў, якія былі б для гэтага спецыяльна абсталяваны і пазначаны, цяпер у лясу ўвогуле не сустрэнеш. …

Затое цяпер адтуль яшчэ здалёк пачуеш пах саляркі, на просечцы ці па трапінцы абавязкова спатыкнешся аб іржавую жалязяку, а па слядах зламанага хмызняку і на дыбкі ўзнятага гусеніцамі спецыяльнай тэхнікі дзёрна беспамылкова выйдзеш да месца актыўнага спілавання лесу і ягонай скруткі для тралення…

Працэс знічтажэння лесу ідзе па ўсёй краіне. На дызелі ад Мінску ажно да самых нашых чавускіх Верамеек я днямі спецыяльна ні на хвіліну не адварочваўся ад вагонага вакна (ледзь шыю не скруціў), каб пераканацца ў тым, пра што ўсе ў нас гавораць – уздоўж усёй гэтай шматкіламетровай дарогі пілуюць лес, складваюць шпалерамі на спецыяльных пляцоўках каля станцый, грузяць на платформы і бесперапынна вывозяць у невядомым напрамку і да невядомых адрасатаў. Сведчу – гэта спраўды так!

… Апусцелая ад лесу тэрыторыя ўшчыльную падыйшла да нашай вядомай вёскі Горкі, дзе была сядзіба знакамітага князя Абаленскага. Пры ім, як нагадваць гісторыкі, і веткі не можна

*(Пачатак. Заканч. на стар. 8)*

## Прагінанні беларускіх чыноўнікаў перад будучым уладаром

Прэзідэнцкая кампанія ў Расіі завяршылася, як усе і чакалі, "яўнай перамогай" у першым туры Уладзіміра Пуціна. Перад новаабраным прэзідэнтам РФ адкрываюцца рэальныя магчымасці па пераўтварэнню яго мары ў рэальнасць...

А мара гэта называецца — адраджэнне Расійскай імперыі. Бо нават утварэнне Савецкага Саюзу ён лічыць памылкай бальшавікоў.

Нямала прыхільнікаў гэтай ідэі ёсць, на жаль, і сярод грамадзян Беларусі.

На днях я атрымаў адказ на мой зварот да старшыні Магілёўскага аблвыканкама Пятра Рудніка. У звароце да старшыні аблвыканкама ўтрымліваліся прапановы аб дапамозе з боку Партыі БНФ Магілёўскаму аблвыканкаму з мэтай паспяховага выканання Комплекса першачарговых мер, зацверджаных сп. Руднікам, па папулярызацыі беларускай мовы на 2010-2012 гады. Бо выкананне Комплекса мер зрываецца. Як сказана ў лісце, падпісаным намеснікам старшыні В.Малашкам, "зроблены гэты комплекс таму, што аблвыканкам занепакоены станам роднай мовы ў грамадстве і зацікаўлены пашырэннем яе выкарыстання".

*(Пачатак. Заканчэнне на стар. 2)*



# Прагінанні беларускіх чыноўнікаў перад будучым уладаром

(Заканч. Пачатак на стар. 1)




***Рыгор Кастусёў***

У адказе, выкладзеным на трох аркушах паперы, пералічваюцца "дасягненні" мясцовых уладаў у папулярызацыі беларускай мовы, выказваецца падзяка за маю актыўную грамадзянскую пазіцыю і занепакоенасць станам беларускай мовы ў нашым грамадстве. Аднак, са слоў чыноўніка, ацэнка сітуацыі ў адносінах да беларускай мовы, дадзеная ў маім лісце як жудасная, не адпавядае фактычнаму стану. Што ж да прапановы аб дапамозе аблвыканкаму з боку Партыі БНФ, то гэтае пытанне апынулася па-за ўвагай чыноўніка.

Так склалася, што дадзены дакумент пераклікаецца ў часе і тэматыцы з некаторымі іншымі цыркулярамі і каментарамі высокапастаўленых беларускіх чыноўнікаў.

Так, напачатку сакавіка 2012 года з Адміністрацыі прэзідэнта за подпісам першага намесніка Адміністрацыі Аляксандра Радзькова ва ўсе аблвыканкамы быў накіраваны загад аб "недапушчэнні беларусіфікацыі і скарачэння ўжывання рускай мовы".

Больш дакладна дадзены пункт гэтага распараджэння выглядае наступным чынам: "Прыняць канкрэтныя меры па недапушчэнні правядзення кіраўнікамі дзяржаўных органаў, іншых арганізацый палітыкі прымусовай беларусіфікацыі і штучнага скарачэння выкарыстання рускай мовы ў іх дзейнасці».

Згодна з дакументам, мясцовыя чыноўнікі атрымалі загад спыніць усялякую дзейнасць у плане развіцця і адраджэння беларускіх гістарычна-культурніцкіх каштоўнасцяў: "Забяспечваць аптымізацыю расходаў мясцовых бюджэтаў на рэстаўрацыю і рэканструкцыю гісторыка-культурных каштоўнасцяў, пастаноўку спектакляў, фільмаў, канцэртных праграмаў, правядзенне культурна-забаўляльных мерапрыемстваў".

Рэфрэнам да ўсяго гэтага ў лютым-сакавіку 2012 года прагучалі артыкулы ў газеце "Советская Белоруссия" і інтэрв'ю "Еўрарадыё" старшыні Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу РБ Анатоля Рубінава з прапановамі па ўвядзенні на тэрыторыі Беларусі расійскага рубля. Па яго меркаваннях, менавіта з-за адсутнасці ў Беларусі ўласных вуглевадародаў і высокай імпартаёмістасці эканомікі нацыянальная валюта пазбаўлена доўгатэрміновых перспектыў існавання.

"Вот в чем состоят наши настоящие проблемы, а не в отсутствии демократии и недостатке свободы слова. Эти проблемы имеют фундаментальный характер и могут быть решены только за счет интеграционных процессов", — лічыць сп. Рубінаў.

Па яго словах, беларускі бок гатовы адмовіцца ад часткі суверэнітэту дзеля забяспячэння стабільнасці ў эканоміцы: "Какая потеря? Ідет процесс интеграции. На постсоветском пространстве свои интеграционные процессы. Что-то нам нравится, что-то — нет. Но есть хочется каждый день. И нужно обеспечивать экономику, жизнь обеспечивать — это главное. Надо с этой точки зрения смотреть, а не что "мы теряем". Суверенитет — это когда все сыты, обуты, у всех есть образование, работа, хороший уровень жизни. Вот тогда — суверенитет", — выказаўся Рубінаў...

Зрэшты, нічога дзіўнага, калі згадаць пра некаторыя вершаваныя творы (калі іх так можна назваць) гэтага аўтара. Напрыклад, вось гэты:

"Что-то сердце, что-то сердце растревожило,
Голова болит невмоготу,
И в боку к тому же колет тоже мне,
Да плюс горечь вместе с сухостью во рту.
Что-то печень, что-то печень расходилася,
А как ляжешь — в почки отдает,
Мне снотворное бы очень пригодилося,
Да понос вот что-то не перестает…"

Можна па рознаму адносіцца да падобных адпісак, распараджэнняў, каментароў... Але за ўсім гэтым бачна адна заканамернасць — спроба беларускіх чыноўнікаў спадабацца свайму будучаму гаспадару, новаабранаму прэзідэнту Расіі, У.Пуціну. Створаная сярод беларускіх уладных структур прарасійская пятая калона як напярэдадні прэзідэнцкай кампаніі ў РФ, так і адразу пасля яе актыўна ўключылася у працэс інтэграцыі Беларусі ў Расію, а працэй — у працэс здачы суверэнітэту нашай краіны. І як бачым, яны нават гэтага не хаваюць і дзейнічаюць ужо ў адкрытую.

Мэта гэтых людзей адна — спадабацца Пуціну ў імкненні здачы незалежнасці нашай краіны і "застолбить" на перспектыву пасады сабе і сваім сваякам ў новаўтворанай Мінскай федэральнай акрузе Расійскай Федэрацыі...

У дадзенай сітуацыі, дзеля выратавання нашай Бацькаўшчыны ад чарговай навалы з усходу і здрадніцкай дзейнасці пятай калоны ўнутры Беларусі, як ніколі актуальным становіцца неабходнасць яднання беларускіх нацыянальна-патрыятычных сілаў унутры краіны і за яе межамі вакол адзінага цэнтру. Такім цэнтрам была і застаецца Рада Беларускай Народнай Рэспублікі.

Толькі сумеснымі дзеяннямі нацыянальна-патрыятычныя сілы змогуць супрацьстаяць агалцелай русіфікацыі і здачы суверэнітэту Беларусі.

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

***Рыгор Кастусёў***

# ЦАРИТ ПОЛНАЯ НЕРАЗБЕРИХА…

В газете «Рэспубліка», печатном органе Правительства РБ, появилась статья, посвящённая экономии топливно-энергетических ресурсов в нашей области. Смысловая направленность этого материала и сделанные выводы лучше всего сформулированы в его названии "Паранормальная энергия». Оказывается, в этой сфере не всё так гладко, как нам годами преподносили со страниц областных и районных газет. Впрочем, удивляться нечему, паранормальным у нас без натяжки можно назвать практически всё.



Согласно отчётам, Могилёвская область за два последних года смогла снизить общее потребление энергии более чем на 20 %. Это ли не достойный повод заявить о преимуществах белорусской модели социально-экономического развития? Но восторг и гордость государственных идеологов были, на самом деле, очень далеки от ральной действительности. Детальное изучение положения с экономией, осуществленное дотошным госконтролем, выявило неприглядную картину. Как пишет «Рэспубліка»: «официальные данные о неуклонном сокращении количества использованных тонн условного топлива, судя по всему, тоже являются достаточно условными». Об этом говорят многочисленные факты из проверок КГК.

В Беларуси предприятия, учреждения, различные организации регулярно отчитываются о расходовании ТЭР (топливно-энергетических ресурсов), а также о внедрении энергосберегающих технологий. Госконтроль решил сравнить подаваемые в отчётах цифры и их конкретное воплощение в хозяйственно-производственной жизнедеятельности предприятий и организаций.

«Мы проверили деятельность Могилевского областного управления по надзору за рациональным использованием топливно-энергетических ресурсов, — сообщил «Рэспубліке» заместитель начальника управления КГК Могилевской области Кирилл Дорошенко. — Именно эта организация обязана координировать в регионе всю работу по использованию ТЭР, в частности утверждать субъектам хозяйствования нормы расхода электричества, газа, мазута, местных видов топлива, контролировать этот процесс, вести соответствующий учёт, а в случае выявления каких-то нарушений наказывать в административном порядке провинившихся». Кстати, управление существует уже 14 лет. И что же обнаружили сотрудники КГК?

Как пишет газета: «Но о каком контроле со стороны названного управления может идти речь, если там царит полная неразбериха». Например, каждое предприятие, которое потребляет более 100 тонн условного топлива в год, обязано ежегодно согласовывать и утверждать нормы расхода ТЭР на единицу продукции. В ходе проверки выяснилось, что работники областного надзорного управления даже не знали, утверждались ли такие нормы на ряде предприятий. Одних только крупных потребителей энергии, о которых в управлении не было нужных сведений, в КГК насчитали 573. Когда же выборочно проверили 11 из них, то большинство проверенных субъектов хозяйствования эти нормы не согласовывали вовсе. Среди них известное ОАО «Новая Друть», возглавляемое бывшим председателем Климовичского райисполкома Коноваловым, а также Климовичское ДУКП «Жилком».

Ещё хуже то, что «для многих предприятий нормы если и утверждались, то без технически обоснованных расчётов, попросту говоря, с потолка». А ведь за экономию ТЭР руководители таких субъектов хозяйствования получали весьма солидные премии. Госконтроль назвал конкретный пример — после проверки должностным лицам могилевского лицея № 10 пришлось вернуть казне 6,5 миллиона рублей, которые им были выплачены в качестве премий за экономию энергоресурсов. Понятно, что названный КГК пример отнюдь не является единственным. И хотя в итоге делается вывод: «Если бы надзорное управление проявляло должную строгость в отношении своих подопечных, у нас не было бы столько беспорядка в сфере расходования энергоресурсов», — это не утешает. Если не смогли проявить строгость на протяжении целых 14 лет, то можно не сомневаться, что выявленный беспорядок никуда не денется. Это уже не частные случаи чьей-то расхлябанности и недосмотра, а сама сущность и внутренняя основа нынешней порочной системы хозяйствования.

***МИХАИЛ ПЕТРОВ***

крык душы

# На гітары Ігара Сімбірова граюць у КДБ?




*Ігар Сімбіроў*

*Музыка з Асіповічаў Ігар Сімбіроў распавядае аб тым, як ужо год і чатыры месяцы не можа вярнуць сваю гітару.*

*Падчас падзей 19 снежня 2010 года Ігар Сімбіроў знаходзіўся ў калоне прыхільнікаў Уладзіміра Някляева, на якую напалі “невядомыя асобы” ў чорным . Затрымалі яго ў Мінску пазней, у ноч з 19 на 20 снежня 2010 года. Згодна з рашэннем суда Ігар Сімбіроў адседзеў 15 сутак у жодзінскай турме за ўдзел у падзеях на Плошчы. Падчас яго знаходжання пад адміністратыўным арыштам у кватэры, якую ён здымаў у Мінску, супрацоўнікі праваахоўных органаў правяліператрус . Яны і забралі з кватэры асабістыя рэчы Ігара - нэтбук, гітару, прыватныя дзённікі, якія ён не можа вярнуць да гэтага часу.*

– Гітару забралі міліцыянты на наступны дзень пасля крывавай нядзелі 19 снежня 2010 года. Мяне ўжо везлі ў Жодзінскую турму, а ў кватэры, што я здымаў, адбыўся ператрус. Міліцыянты выклікалі гаспадара кватэры і пачалі сканфіскоўваць усё, што было не ягонае. Вынеслі, што толькі было можна: мэблю, паперы, смецце, нават мае рушнікі і пару трусоў.

А ў шафе, сціпла схаваўшыся у куточку, стаяла мая новая гітара. У футарале. У кішэньках футарала былі сшыткі з маімі чарнавікамі песень, апавяданняў, флэшкі з фрагментамі запісаў. Побач з гітарай стаяла сумка, дзе былі мае дакументы, дзённікі, ключы, тэлефон і іншыя важныя паперы. А ў другім куточку шафы не меней сціпла прытулілася другая мая гітара – “барысаўдрэў”, старая, пабітая і пераклееная, але для экстрэмальных умоваў самая падыходзячая. Міліцыянты пакінулі толькі яе. Як здзек: такое ламачча нам не патрэбнае. Ніякіх папераў аб канфіскацыі не складалі. Адным словам: міліцыянты скралі маю гітару і іншыя важныя для мяне рэчы 20 снежня 2010 года, на наступны дзень пасля выбараў прэзідэнта Беларусі.

Я адседзеў 15 сутак у Жодзінскай турме. Пасля вызвалення адзіным жаданнем для мяне было даведацца, дзе мая гітара. Я прыехаў да кватэры, але там ужо быў іншы замок. Пазваніў гаспадару і той распавёў, што “усё забралі міліцыянты і дзе мая гітара, ніхто не ведае”.

Пазней, ва Упраўленні папярэдніх расследванняў горада Мінска мне следчы паведаміў, што мая гітара знаходзіцца ў КДБ па Мінскай вобласці.

С таго часу, на працягу вось ужо года і трох месяцаў я вяду “любезную” перапіску і тэлефонныя размовы са “старым-добрым” НКВД”. Называю я іх так, таму што метады і падыход да справы цяперашняга КДБ істотна не адрозніваюцца ад НКВД сталінскіх часоў. У гэтым я ўпэўніўся на ўласнай скуры, як той казаў.

У заявах на імя начальніка Мінскага КДБ Калача У.В. я ўказваў, што з’яўляюся музыкам і актыўна ўдзельнічаю ў розных музычных імпрэзах, фэстах, канцэртах і праектах. Таму гітара мне патрэбная для маёй штодзённай прафесійнай дзейнасці. У маім нетбуку знаходзіцца маё партфолиё, чарнавікі маіх апавяданняў, якія з’яўляюцца для мяне вельмі каштоўнымі, прычым большасць чарнавікоў і запісаў ёсць толькі там, і ў адзіным экзэмпляры, і калі з імі нешта здарыцца – будзе нанесена цяжкая страта маёй інтэлектуальнай ўласнасці, якая ахоўваецца законам.

У сваіх адказах начальнік упраўлення КДБ па Мінскай вобласці Калач У.В. спасылаецца на загружанасць работай, маўляў, ён так запрацаваўся, што яму цяжка прыняць рашэнне і вярнуць мае рэчы з-за вялікага аб’ёма матарыялаў па крымінальнай справе ў сувязі с падзеямі 19 снежня 2010 года. Відаць, таварыш Калач мяркуе, што я гітарай біў шкло ў Доме Ураду на Плошчы Незалежнасці.

Мая гітара, нетбук, ключы ад кватэры, мікрафон і чарнавікі песень не могуць мець ніякага дачынення да падзеяў 19 снежня 2010 года. У гэтым Калач і ягоныя падначаленыя за год і тры месяцы маглі ўпэўніцца, праглядзеўшы і нават абнюхаўшы ўсе мае рэчы.

(Пачатак. Закан. на стар. 5)



# Леанід Злотнікаў: Эканоміцы патрэбны $ 1 млрд вонкавай дапамогі штомесяц



*Леанід Злотнікаў*

Ці можа паўтарыцца крызіс 2011 года? Эканаміст Леанід Злотнікаў зазначае, што праблемы, якія выклікалі мінулагодні крызіс, застаюцца актуальныя і сёння. "Галоўная прычына – гэта тое, што як і раней спажыванне ў краіне, маецца на ўвазе і насельніцтва, і ўрад, перавышае магчымасці эканомікі краіны", – зазначыў эксперт.

Паводле Леаніда Злотнікава, у 2011 годзе запатрабаванні краіны былі большыя за вытворчасць на 7,5 %, а ў 2010 годзе – прыкладна ўдвая. „Краіна па-ранейшаму жыве не па сродках – спажыванне перавышае магчымасці, а з іншага боку, надышоў час аддаваць пазыкі за тое жыццё не па сродках, якое было ў папярэднія гады. Сітуацыя застаецца напружаная", – падкрэслівае эканаміст.

Паводле Леаніда Злотнікава, каб узровень жыцця беларусаў застаўся на сённяшнім узроўні, неабходныя грашовыя паступленні звонку. „Гэтыя паступленні маюць складаць каля мільярда доляраў на месяц. Вось тады сітуацыя будзе заставацца такая, як ёсць, без далейшага падзення ўзроўню жыцця", – гаворыць Леанід Злотнікаў.

Эксперт падкрэсліў, што з гэтай сітуацыі можна выйсці, аднак дзеля гэтага трэба „вельмі крута рэфармаваць эканоміку". „Я маю на ўвазе стварэнне ўмоваў дзеля прыцягнення замежных інвестыцыяў і новых тэхналогіяў. Гаворка пра тое, што трэба такія ўмовы стварыць, вядзецца ўжо тры гады, аднак мы бачым, што наўпроставыя замежныя інвестыцыі, якія б нам маглі дапамагчы, да нас не ідуць", – дадаў эканаміст.

**belsat.eu**

# На гітары Ігара Сімбірова граюць у КДБ?

*(Заканч. Пачатак на стар. 4)*

Больш за год я практычна кожны тыдзень тэлефаную ў менскі КДБ і пытаюся што з маёй гітарай. Дайшло да таго, што дзяжурны наўпрост ці кідае слухалку, ці кажа: "Можаш скардзіцца куды заўгодна". А адзін персанаж заявіў: "Тэрмін утрымання вашых рэчаў неабмежаваны!". Опа. Прыехалі. Прычым ніхто там не называе сваіх прозвішчаў і імёнаў. Гэта, бачыш ты, закрытая ўстанова. Што хачу, то і варачу.

Быў выпадак, калі я распавёў аб сваіх пакутах па тэлефоне Цэнтральнага КДБ. Там мяне выслухаў нейкі абыякавы голас, потым пасля доўгай паўзы запытаўся: "Дык вы наконт гітары? То прыязджайце!" І кінуў слухалку. Ну я і прыехаў. Кажу сакратару: вось я, мне сказалў дзяжурны па тэлефоне, каб я прыехаў. Сакратар мне кажа: "Ну не я ж казаў, таму не ведаю навошта ты прыехаў". Здзек? Думаю самы спраўдны, подлы, мэтанакіраваны і непрыхаваны.

І гэта толькі частка красамоўных фактаў, як наш слаўны КДБ паводзіць сябе з іншадумцамі.

Апошні мой ліст быў накіраваны старшыні менскага КДБ Калачу У.В. напачатку лютага гэтага года. Ужо канец сакавіка, а воз і зараз там. Калач нават ужо не лічыць патрэбным мне адказваць. КДБ не баіцца парушаць "Закон аб звароце грамадзянаў". Яны адчуваюць сваю беспакаранасць, таму што яны бласлаўляюцца на свае ўчынкі з самога верху. Аб гэтым у размовах шэптам мне прызнаваліся самі следчыя, дазнавальнікі. І кожны з іх, быццам выбачаючыся дадае: "Ну вы ж разумееце, у якой краіне мы жывем…"

Я разумею. Я жыву ва ўнітарнай дэмакратычнай сацыяльнай прававой дзяржаве. І я, як грамадзянін гэтай краіны, не дапушчу і буду рабіць усё магчымае, каб **Камітэт Дзяржаўнай Бяспекі** не ператварыўся ў **Камітэт Дзяржаўнага Бандытызму**.

Пакуль што я не вычарпаў усе законныя метады змагання з прававым бязмежжам. Але я здыму з сябе ўсялякую маральную адказнасць за свае далейшыя ўчынкі, калі відавочнае парушэнне маіх правоў і Закона Рэспубліікі Беларусь будут апраўданы цяперашняй судовай сістэмай. І я з усёй адказнасцю заяўляю: тыя, хто сваё трусасцю апраўдвае сваю подласць у свой час адкажуць за ўсё. Пазбегнуць адказнасці, як пазбеглі яе каты НКВД-КДБ пасля развалу СССР цяпер ім не ўдасца. Мы сочым за вамі, служкі беззаконня, трымціце!

**Ігар Сімбіроў**

*PS. Напрыканцы сакавіка музыка з Асіповічаў Ігар Сімбіроў паскардзіўся ў Цэнтральны КДБ на дзеянні старшыні ўпраўлення КДБ па Мінску і Мінскай вобласці Калача У. В. Скаргу, якую музыка напісаў на імя старшыні КДБ Беларусі Зайцава, прынялі і зарэгістравалі ў адпаведным журнале толькі пасля яго настойлівых патрабаванняў.*

*Грамадства*

# У Бялыніцкім раёне ўлады на звароты грамадзян папросту не рэагуюць

Вось ужо паўтары гады, як былая гаспадарка Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь ААТ “Новая Друць” не аддае кампенсацыю за забраны зямельны надзел жыхару аграгарадка Вялікая Машчаніца Барысу Вырвічу. Мясцовыя органы выканаўчай улады прызнаюць, што вясковец мае рацыю, аднак пытанне вырашыць не могуць. Ці не жадаюць?




“Яшчэ восенню 2010 года Машчаніцкі сельсавет забраў у мяне зямельны надзел памерам 0,3 гектара, бо менавіта на гэтым месцы гаспадарка Нацбанка “Новая Друць” вырашыла будаваць жылыя дамы для сваіх працаўнікоў, - распавядае Барыс Вырвіч. – Як і патрабуе заканадаўства, супрацоўніцы зямельнай службы Бялыніцкага райвыканкама і Машчаніцкага сельсавета правялі абмер кавалка зямлі, вызначылі ўраджайнасць пасеяных там шматгадовых траў, склалі адпаведны акт і далі абяцанне, што да новага года мне нейкім чынам кампенсуюць вартасць маіх пасеваў”.

Барыс Вырвіч кажа, што яго не здзівіў той факт, што пра сваё абяцанне і складзены акт райвыканкамаўскія і сельсаветаўскія чыноўнікі хутка забыліся:

“Іншыя жыхары аграгарадка Вялікая Машчаніца, у якіх таксама забралі надзелы зямлі пад будоўлю, пачалі скардзіцца ў розныя інстацыі. Схадзіў і я на прыём да старшыні Машчаніцкага сельсавета Аляксандра Шчацінкі. І вось ужо ў снежні наступнага, 2011-га, года да мяне да хаты прыехалі старшыня сельсавета Аляксандр Шчацінка і намеснік дырактара ААТ “Новая Друць” па ідэалагічнай працы Дзмітрый Стэфаненка. Малады ідэолаг паскардзіўся, што “Новая Друць” вельмі складанае становішча, збожжа і сена не хапае для пракорму ўласнай жывёлы, таму разлічыцца са мной яны могуць толькі бульбай, якую прывязуць мне да хаты да Новага, ужо 2012, года. Канешне, мяне крыху здзівіў той факт, што на той момант гаспадарка Нацбанка і адзін з пераможцаў рэспубліканскіх “Дажынак” знаходзіцца проста ў жабрацкім стане, але на ўмовы я пагадзіўся”.

Да сярэдзіны сакавіка 2012 года вясковец чакаў, калі ж чыноўнікі выканаюць свае абяцанні.

“ Прайшоў Новы год ужо і па кітайскім, і па старажытнаславянскім календары, але абяцанай бульбы мне так і не прывезлі, - кажа Барыс Вырвіч. – Якраз 14 сакавіка адбылася прамая тэлефонная лінія па зваротах грамадзян са старшынёй Бялыніцкага райвыканкама Аляксандрам Вароніным, я звярнуўся са сваёй праблемай да яго. Трэба сказаць, што Аляксандр Мікалаевіч мяне ўважліва выслухаў і паабяцаў, што пытанне будзе вырашана на працягу двух тыдняў. Як аказалася, і яго абяцанкі былі пустымі словамі. 28 сакавіка 2012 года мне патэлефанавала жанчына з упраўлення сельскай гаспадаркі Бялыніцкага райвыканкама, якая зноў паабяцала, што са мной у бліжэйшы час абавязкова разлічацца, на гэты раз зернем. Як кажуць, абяцанкі-цацанкі, а дурню радасць, толькі іх і чую ўжо патара гады. Самае смешнае, што свой дом дырэктар ААТ “Новая Друць” Уладзімір Канавалаў паставіў побач з маім былым надзелам і ніякіх пазываў сумлення за тое, што не разлічыўся са сваім аднавяскоўцам, у яго не з’явілася”.

Неабходна адзначыць, што па выніках 2011 года дырэктар ААТ “Новая Друць” Уладзімір Канавалаў быў прызнаны “Чалавекам года” Бялыніцкага раёна ў галіне “Вытворчая дзейнасць”. Раней Уладзімір Вінідзіктавіч Канавалаў не адзін год працаваў старшынёй Клімавіцкага райвыканкама, пакуль у 2005 годзе не быў прыгавораны Гомельскім абласным судом да 4 гадоў пазбаўлення волі за перавышэнне службовых паўнамоцтваў. У хуткім часе пасля свайго датэрміновага вызвалення са Шклоўскай выпраўленчай калоніі, у кастрычніку 2008 года, Уладзімір Вінідзіктавіч узначаліў ААТ “Новая Друць” - багацейшую гаспадарку Бялыніцкага раёна, якая належала Нацыянальнаму банку Рэспублікі Беларусь.

*Сяргей Семяновіч*

## ТАК БЫ ВА ЎСІМ!..

Здаецца, зусім нядаўна характэрную нетаропка-велічную постаць літаратара і крытыка Якуба Усікава можна было сустрэць і ў шумным Магілёве, і ў родным Кадзіне, але на карце Магілёва сёння ўжо з'явілася вуліца, названая ягоным іменем. Што ж, час бяжыць… Людзі сыходзяць...

Аднак вельмі добра і правільна, калі памяць пра іх жыве. Вось як у гэтым выпадку. Днямі Магілёўскі гарадскі Савет дэпутатаў зацвердзіў шэраг назваў новых вуліц, дзе навечна застануцца імёны, у прыватнасці, вядомых магілёўскіх пісьменнікаў Янкі Журбы, Платона Галавача, Васіля Шашалевіча, Васіля Каваля, Анатоля Сербантовіча, Мікаля Лук'янава, Аркадзя Кандрусевіча, Пятра Шасцерыкова, Васіля Матэвушава, Васіля Карпечанкі і Эдуарда Валасевіча. Таксама адну з найбуйнейшых вуліц назвалі ў гонар Мікалая Судзілоўскага - ураджэнца Магілёва, філосафа, вучонага і рэвалюцыянера, Прэзідэнта Сената Гавайскіх астравоў.

Новыя вуліцы паўстануць у раёне вёсцы Гарадшчына, паміж Казіміраўкай, Цішоўкамі і Ямніцкім пасёлкам. Называць магілёўскія вуліцы імёнамі вядомых землякоў – вельмі добрая практыка. Гэтаўсё-ткі цікавей, чым 12 завулкаў Лізы Чайкінай, 10 Падгорных, 7 Вясенніх ці “Клубный овраг”, “Рыночный тупик” ды нейкі “Республиканский спуск”.

… Разам бы з наданнем новым вуліцам імёнаў знакамітых землякоў хутчэй і смялей бы пазбаўляцца нам і ад імёнаў, таго не вартых. Тым больш, што больш як палова розных там Куйбышавых з Кіравымі ніколі ў нашых краях не былі, ды й увогуле нічога добрага па сабе не пакінулі.

*Сяргей ПІСЬМЕННЫ*

## В Беларуси массово увольняются строители и педагоги




Такой вывод можно сделать на основании данных Белстата о занятости в январе-феврале.

В этот период было принято на работу 110 тысяч человек, а уволено 117 тысяч. Отметим, что это статистика без учета субъектов малого предпринимательства негосударственной формы собственности.

Наибольшая разница между уволенными и принятыми на работу в сферах образования и особенно строительства. Так, в январе-феврале в строительных организациях было принято на работу 10 тысяч человек, а уволилось по тем или иным причинам 17 тысяч!

## У Чавускім раёне завяршылася акцыя “Не!” – брыдкаслоўю”




У Чавускім раёне Магілёўскай вобласці завяршылась акцыя “Не!” – брыдкаслоўю”. Вынікі акцыі, якая працягвалася месяц, былі падведзены на пасяджэнні “круглага стала”, паведаміў інтэрнэт-сайт чавускай раённай газеты “Іскра”.

На пасяджэнні “круглага стала” чыноўнікі ад ідэалогіі адсправаздачыліся аб дасягненнях у справе барацьбы з брыдкаслоўем у Чавускім раёне. Намеснік начальніка РАУС Ю. Лабанаў распавёў пра тое, што па выніках акцыі за брыдкаслоўе ў грамадскіх месцах у адносінах 9 чалавек складзены пратаколы па артыкулу 17.1 КаАП Рэспублікі Беларусь (дробнае хуліганства). Таксама міліцэйскі чыноўнік адзначыў, што да асабістага складу міліцыі штодзённа даводзіцца Загад № 1 міністра ўнутраных спраў РБ “Аб ветлівых і ўважлівых адносінах супрацоўнікаў унутраных спраў і ваеннаслужачых унутраных войскаў к грамадзянам”, праводзіцца Дзень закону і гонару.

Аднак крыху папсаваў імідж доблесных супрацоўнікаў міліцыі, магчыма, сам таго не жадаючы, удзельнік “круглага стала” айцец Мікалай, які ў якасці становучага прыклада барацьбы з брыдкаслоўем прывёў расповед свайго прыхажаніна, курсанта міліцэйскай Акадэміі: “Говорят, один в поле не воин. Но это не так. Приведу пример. Один молодой прихожанин, который в то время учился в милицейской Академии, как-то пожаловался, что в учебном заведении курсанты много сквернословят, и ему как верующему трудно быть в такой обстановке. Я ему посоветовал: действуй. А через какое-то время парень рассказал, что побеседовал на эту тему с начальником Академии, тот его поддержал, и обстановка намного улучшилась”.

Высвятляецца, што ў нашай краіне не толькі дэмакратычныя актывісты напярэдадні грамадскіх акцый, а і тое, што “в милицейской Академии курсанты много сквернословят”.

*Вікторыя Бялова*

## Белстат: заробак «бруднымі» ў лютым склаў 2,964 млн

Налічаная сярэдняя заработная плата работнікаў у краіне ў лютым склала 2 млн. 964 тыс. 249 рублёў (у студзені было 2 млн. 880 тыс. 585 рублёў).

# У Крычаўскім раёне настаўнікі перакваліфікаваліся ў пажарнікаў

У Крычаўскім раёне Магілёўскай вобласці настаўнікаў прымусілі выконваць функцыі пажарнікаў-выратавальнікаў – яны абследуюць дамы ў прыватным сектары на прадмет іх супрацьпажарнай бяспекі. Пра чарговую ініцыятыву крычаўскіх чыноўнікаў журналістам незалежнай газеты “Вольны горад” распавялі самі мясцовыя сейбіты разумнага, добрага, вечнага.

Як паведамляе выданне, усё пачалося з каманды ў найкарацейшыя тэрміны правесці абследванне ўсіх дамоў прыватнага сектара на прадмет супрацьпажарнай бяспекі і па яго выніках усталяваць у найбольш небяспечных жылых памяшканнях пажарныя апавяшчальнікі за кошт бюджэтных сродкаў. Паколькі час для гэтага быў адведзены невялікі, а ў РАНС супрацоўнікаў не хапае, у справу былі “кінуты” педагогі. Пры гэтам, па словах некаторых настаўнікаў, іх нават ніхто толкам не праінструктаваў. Насельніцтва не было шырока праінфармавана пра маючую адбыцца акцыю, і даволі часта з настаўнікаў падчас візітаў адкрыта здзекаваліся і жартавалі: “Ну, якія вы пажарнікі!”.

Па словах журналіста газеты “Вольны горад”, безумоўна, правы настаўнікаў былі парушаны, аднак яны шмат у чым самі вінаватыя ў такім стаўленні да іх правоў з боку мясцовай улады:

“На працягу сямнаццаці гадоў многія настаўнікі падчас розных выбарчых кампаній бяздумна выконваюць усе незаконныя загады і распараджэнні чыноўнікаў, пра гэта неаднаразова пісаў “Вольны горад”. Што казаць, калі нават зараз, падчас такога яўнага парушэння сваіх правоў, педагогі скардзіліся ў газету на ўмовах захавання ананімнасці. Мяне вельмі засмучае той факт, што многія “сейбіты разумнага, добрага, вечнага” вызначаюцца толькі згодніцтвам, беспрынцыповасцю, адсутнасцю элементарнага чалавечага гонару”.



*Ірына Беганкіна*

## У Чэрыкаўскім раёне хутка знікне лес

*(Заканч. Пачатак на стар. 1)*

было зламаць у лесе без гаспадарчай патрэбы, ды і тое толькі пры той умове, што замест спілаванага дрэва абавязкова павінны былі пасадзіць тры саджанцы. Цягам часам тут і паднялася княжская так званая лесапаркавая зона, што досталася новай уладзе. Але нават і за савецкімі часамі такога, як цяпер, не назіралася. У гэтай самай лесапаркавай зоне праводзілася, напрыклад, знакамітая дзіцячая ваенна-патрыятычная гульня “Зарніца”. У гэтай зоне месціўся выдатны піянерскі лагер “Сонейка”. Сюды на зялёную гору любілі прыязджаць людзі адпачыць, наталіцца лясным водарам і сілай…

Цяпер гэтую гору, з якой зніклі дрэвы і хмызняковыя чашчы, людзі завуць лысай…

***С.Панізоўцаў (фота аўтара)***

## В Могилеве несовершеннолетний разбил фару троллейбуса и избил женщину-водителя

Безучастность могилевчан позволила малолетнему преступнику избежать правосудия. Как сообщили в Октябрьском РОВД Могилева, дерзкое хулиганство на минувших выходных совершил на остановке общественного транспорта «Проспект Димитрова» неизвестный парень. Несовершеннолетний хулиган разбил фару троллейбуса и избил женщину-водителя, которая вызвала сотрудников милиции. К просьбам женщины о помощи пассажиры остались безучастны. Малолетний преступник беспрепятственно убежал до появления стражей порядка. По данному факту возбуждено уголовное дело, — рассказал заместитель начальника отдела уголовного розыска Октябрьского РОВД Могилёва, майор милиции Сергей Афанасьев, сообщает Радио Могилев.

## В Быхове воруют колбасу

26 марта СК возбуждено у/д по ст. 205 ч. 2 УК (Кража) в отношении рабочих СЗАО «Белатмит» 1980 г.р. и 1983 г.р., которые 26 марта около 2-00 с территории указанного предприятия пытались похитить 100 кг колбасы, на сумму более 2 млн рублей.

## Анекдот дня

Две подруги:

— После того, как я от своего бывшего ушла, он мне каждый день весь в слезах звонит!

— Ага, прощения просит, гад?!

— Нет, благодарит...

*магілёўскі* **Выбар**

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі

Адрас рэдакцыі: Магілёўская воб, аг-к В. Машчаніца, вул. Савецкая, д.4. Тэл. 8 - 0259 204 308, e-mail: Boris152@gmail.com. Выдавец Міхайлаў Іван Барысавіч. Наклад: 299 асобнікаў, фармат А-4. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 03.03.2012 г. у 20-00.